## Слово аб нашым тэатры.

Чаму гэта, калі прыйдзеш на прадстаўленьне нашага тэатру, дык нейкі непакой і трывога агартае, ось—быццам прышоў на досьвідкі да дарагога хворага. І усьміхаешся, і кажаш, што усё,- балазе, будзе, але ў нутры пячэ больбалючая, бо няма пэўнасьці ў душы. І праўда, шмат мы аб чым гаворым і багатые маем проекты, ёсьць шырокі размах у думках нашых; мы ведаем, што театр, паставіўшы „Жаніцьбу Фігаро", распаліў рэвалюцыю ў Францыі, што „Наталка Палтаўка" перанесла украінскі сьцяг ад Вэнгрыі да Вялікага акіяну, што „Фэнэла" ў Італіі...ах, мы ведаем, што тэатр рвець усе сковы, разьлівае сьвет, цешыць шчырым сьмехам...

І вось, будуецца наш беларускі тэатр; ёсьць розные матар'ялы, прылады, рабочая сіла, але няма цэменту. Ня чуецца ў цэлым тэатральным колектыве шчырай, жыцьцёдаўчай працы, няма студ'яваньня, я-б сказаў, вад літургічнай асновай нашага *народнага* тэатру, няма той глыбокай сьвядомасьці, што іх сьвятая творчасьць ёсьць даўно чаканая страва для галоднай душы пакрыўджанага, шматмільённага народу...

Ой, паны дабрадзеі, ў чыіх руках наш сучасны тэатр! Падумайце, паразважце вы супольна, уважна над тым, што непамерна вялікую будзеце мець заслугу перад беларускай будучынай. Нясеце-ж вы ў тую новую будыніну сьвет і цяпло, каб вас сустрэлі з радасным успамінам, братоўскім абняцьцем. Ідзеце-з тэатрам, гэтай адноўленай батлейкай, па нашых пуцявінках ад вёскі да вёскі, ад места да места і апавяшчайце простым, але агністым словам, аб нараджэньні сьвету, аб трыумфу нашай праўды, аб радасьці вызваленьня Працуйце, як на полі перад непагодай, як ратуючы здабытак пры пажары! Працуйце!

Добра,—скажуць мне,—мы гатовы працаваць, але дайце нашаму тэатру самае важнае: дайце літэратуру. Дайце перш-на-перш сцэнічную камэдыю, каб яна была напісана ярка; хай у дэталях і будзе недахват, але каб цэласьць, ідэя пьесы ўрэзалася ў памяць, каб давала новае пачуцьцё ў перажываньні, каб роль, хоць в некалькі слоў, ярка характарызавала, стварала тып і давала волю мастаку выявіць сваё „я", дайце нацыянальную драму, якую даў Высьпянскі палякам, Райніс латышом, Астроўскі маскоўцам... дайце матар'яльнае падтрыманьне...

Але жыцьцё нашых часоў інакш кажа: не прасіць і чакаць, а браць і тварыць,—тварыць вечнае, сусьветнае, роднае, здаровае.

**А. Родзевіч.**

## МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Мясцовые гандляры**, якіе выпісалі з Варшавы на Вялікдзень вялікіе парты тавараў, цяпер прыймаюць энэргічные меры дзеля дастаўкі гэтых тавараў у Менск. Мажліва, што з Варшавы будзе адпраўлена некалькі спэцыяльных цягнікоў з прыватнымі грузамі. У хуткім часе будзе арганізована урадовая дастаўка пачтовых пасылак. Гэтаму ў гандлёвых кругох дадаюць вялікае значэньне, дзеля таго што спадзяюцца на тое, што можна будзе пасылкамі даставаць у Менск значны лік тавараў.

**Коапэратыўны банк Беларусі** мае быць адчынены ў палове сакавіка. Устава банку будзе зацьверджана гэтымі днямі.

**Шпітальная справа** ў Менску будзе рэарганізована. Усе потасные шпіталі будуць пад кіраўніцтвам спэцыяльнага аддзелу ў справе барацьбы з эпідэміяй, які арганізуецца гэтымі днямі.

Пад загадам мэдыцынскага аддзелу магістрату будуць толькі агульные шпіталі, амбуляторыі, прытулкі.

**Менскі рабочы коапэратыў**, па загаду адміністрацыі нядаўна перамянаваны ў саюз злучаных коапэратываў, цяпер, па загаду той-жа адміністрацыі, зноў будзе называцца рабочым коапэратывам. Выбары поўнамоцных ад раёнаў у праўленьне коапэратыву да гэтага часу не адбыліся. Упраўленьне округу павядоміло праўленьне коапэратыву, што выбары павінны быць зроблены ў адзін дзень і кандыдатамі могуць быць выстаўлены толькі прысутные на сходах. Гэта тэхнічна перашкаджае выбарам і праўленьне коапэратыву зьвярнулося ў упраўленьне округу з просьбай аб зьмене загаду.

**Сельскіе коапэратывы** пачалі апрацоўваць статуты дзеля прадстаўленьня іх да рэгістрацыі ў упраўленьне округу. Гэта прапанаваў ім рабіць Цэнтрабелсаюз.

Коапэратывы ня маюць гатовага, апрацованага цэнтрам, статуту і гэта можа зацягнуць надоўга скліканьне зьезду коапэратываў.

**Рэквізыцыя фурманак і збожжа** па вёсках Менскага округу, з прычын надбліжэньня вясновых работ на полі, пасьля клопатаў інспэкторыяту сельскай гаспадаркі, спыніцца ў хуткім часе.

**Рэвізіі ў аптэкарскіх магазынах** зроблены былі трэцьцяга дня. У многіх магазынах знойдзены забароненые для пpадажы аптэкарскіе тавары ў вялікім ліку. Усе гэткіе мэдыкаменты рэквізаваны. Уласьнікі магазынаў будуць за гэта пакараны.

**У павятовага старасты** пачаўся прыём просьбаў ад семьяў армейскіх салдатаў аб выдачы грашовай дапамогі.

**Рэвізія мяняльных кантор** будзе зроблена гэтымі днямі спэцыяльнай камісіяй, па загаду упраўленьня ўсходніх зямель.

**Абавязковая такса** для фурманоў мае быць апавешчана менскім камісарыятам у хуткім часе.

**„Гісторыя Беларусі"** Ігнатоўскага вышла з друку. Прадаецца ў Беларускай кнігарні ў памяшканьні Беларускага дому. Апрача таго, так сама мае прадавацца ў кнігарні Цэнтрабелсаюзу.

*Рэдактар—Я. ЛЁСІК.*

*Выдавец—К. ТАРЭШЧАНКА.*





Менск. Друкарня Інвалідаў.